

# КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

№2(78)

20 лютага 2012 Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь

# 100 ВОПРОСОВ К ВЛАСТИ В КЛИМОВИЧАХ

Александр ЗИМИН

***Движение «Говори правду», возглавляемое Владимиром Некляевым, продолжает проводить одну общественную кампанию за другой. В настоящее время в городах и районах страны проходит акция под названием «100 вопросов к власти». В феврале к ней присоединились климовичские активисты движения.***




Как сообщает Ирина Беганкина (сайт zapraudu.info), активисты «Говори правду» из города Климовичи провели 15 февраля акцию в рамках кампании «100 вопросов к власти». На климовичских улицах появились листовки, вывешенные на досках объявлений, у входов в магазины и подъезды жилых домов.

«Всего мы вывесили в городе около пятидесяти листовок, — рассказал независимым журналистам один из участников. — В них задавались вопросы «Когда отпустят политзаключенных?» и «Когда наши суды станут независимыми?». Эти вопросы действительно волнуют многих неравнодушных людей. Климовичи город небольшой, думаю, многие жители смогут их увидеть и прочитать. Реакция горожан была в основном положительная».

Координатор кампании «Говори правду» по Могилёвской области Оксана Самуйлова отмечает, что в области к деятельности «Говори правду» постоянно присоединяются новые люди: «Эти ребята из Климович долго читали о проводимых нами акциях на сайте кампании, а потом решили присоединиться к нашей деятельности. Меня это очень радует. Приятно, что нашу гражданскую позицию разделяет всё больше активных людей».

## ПРАВІЛЫ ПРЫЁМУ Ў ВНУ І ТЭХНІКУМЫ СЁЛЕТА НЕ ЗМЕНЯЦЦА

***Правілы прыёму ў ВНУ і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы Беларусі ў 2012 годзе змяняцца не будуць. Аб гэтым паведаміў БелТА першы намеснік міністра адукацыі Аляксандр Жук.***

***Паводле слоў Аляксандра Жука, сёлета захаваецца асобны конкурс для гарадскіх і сельскіх абітурыентаў, льготы пры паступленні і г.д. Першы намеснік міністра паведаміў, што, прааналізаваўшы вынікі цэнтралізаванага тэставання 2011 года, Міністэрства адукацыі працуе над тым, каб устанавіць узровень мінімальнага станоўчага бала на Цэнтральным тэставанні 2012 года па ўсіх прадметах для паступлення ў ВНУ. Гэтая норма будзе распрацавана Міністэрствам адукацыі да пачатку ўступнай кампаніі 2012 года.***

## РЫГОРУ БАРАДУЛІНУ — 77 ГАДОЎ!

***Няма патрэбы казаць пра талент Рыгора Барадуліна, бо творчасць паэта даўно ўвайшла ў школьную праграму. Сёння яму споўнілася 77 гадоў! Барадулін вядомы не толькі вершамі, ён — непаўторны знаўца роднай мовы, вяртае да нас забытыя слоўцы і нараджае новыя словы.***

***Абыйдзецца пляшывы без грабянька.***
***Ад прыбытку галава не баліць.***
***Аддай рукамі, а хадзі нагамі.***
***Дасць Бог дзень, дасць і пажытак.***
***Добра ўсе ўмець, ды ня ўсе рабіць.***
***Ен і ад яйка адліецць.***
***За свой грош усюды харош.***
***Няма шчасця — і ў грыбы не йдзі.***
***У запас не наплачашся.***
***Уторкнуў Бог душу, як у пень.***
***Хваціў кашу шылам.***
***Ціхая свіння глыбока рыіць.***
***Чужое дабро бярэ за рабро.***



# МАГДЭБУРГСКАЕ ПРАВА — СЛАВУТАЯ СТАРОНКА БЕЛАРУСКАЙ МІНУЎШЧЫНЫ

**Сяржук АРЖАНЦАЎ**

У савецкія часы пра наяўнасць на Беларусі магдэбургскага права казалі вельмі неахвотна. Вядома чаму, бо гэта сведчыла пра незалежнасць нашай тагачаснай дзяржавы, пра культурнае і прававое развіццё беларускага народу. І таксама аб тым, што беларускія землі трымаліся традыцый і поглядаў Еўропы, а не суседняй Расіі. Зразумела, што ў камуністычным Крамлі ніякім чынам не жадалі згадваць пра гэтую славутую старонку беларускай мінуўшчыны. Для іх гісторыя Беларусі пачыналася з 1917 года.

Здаецца, што такія падыходы сышлі ў нябыт. У падручніках і энцыклапедыях ужо паведамляецца, што пачынаючы з XIV стагоддзя значная колькасць беларускіх гарадоў атрымала магдэбургскае права. Дарэчы, важна падкрэсліць, што размова ідзе не толькі пра Брэст ці Магілёў, бо граматы на магдэбургскае права мелі, напрыклад, Крычаў і Чэрыкаў. Гэтае права вызначала становішча гарадскога насельніцтва, давала гарадам самакіраванне і выбарныя органы. Гарадскія жыхары атрымлівалі магчымасць выбіраць сабе мясцовую ўладу, што рабіла іх правамоцнымі асобамі. Такім чынам, нараджалася супольнасць свабодных людзей, якія ведалі і паважалі свае правы і законы.

Але якраз гэта дасюль не задавальняе некаторых уладаралюбцаў. Сёння на дзяржаўным узроўні пра магдэбургскае права ў гісторыі Беларусі амаль не гаворыцца. І калі б не асобныя грамадскія арганізацыі і актывісты, славутая з'ява ўвогуле б замоўчвалася. У звязку з гэтым прыемна паведаміць, што грамадскасць Магілёва кожны год 28 студзеня адзначае наданне гораду магдэбургскага права. У гэты дзень у 1577 годзе кароль Рэчы Паспалітай Стэфан Баторый даў гораду прывілей на самакіраванне.

Як заўжды 28 студзеня рэгіянальнае прадстаўніцтва Руху «За свабоду» на чале з Аляксандрам Сілковым, іншыя дэмакратычныя суполкі, арганізавалі мерапрыемствы да гадавіны знакавай падзеі ў гісторыі гораду. Сёлета да іх далучыліся госці з Мінска і Санкт-Пецярбурга, а таксама прадстаўнікі газеты "Вольны горад" Мікалай Гердзій і Сяргей Аржанцаў. Яны разам наведалі музей Магілёва, а потым паўдзельнічалі ў экскурсіі па вядомых мясцінах. Увечары адбылася канферэнцыя, прысвечаная 435-годдзю магдэбургскага права ў Магілёве.



Сярод ганаровых гасцей быў кіраўнік Руху «За свабоду» Аляксандр Мілінкевіч, які наступным чынам распавёў пра значнасць падзеі: «Калі казаць пра нашу еўрапейскасць у пабудове грамадскага і дзяржаўнага жыцця, то менавіта магдэбургскае права нас адрознівае ад земляў, якія ляжалі на ўсход, у Расіі. Там ніводзін горад не меў магдэбургскага права. Гэта права на самастойнасць, права выбіраць уладу… Канечне, гэта традыцыі велізарнага значэння, але ж калі запытаць нашых школьнікаў, якія сканчаюць школу, што такое магдэбургскае права, то большасць не скажа. І гэта трагедыя. Але ж гэта выправіцца. Будуць добрыя падручнікі і добрае выкладанне» (з інтэрв'ю для Радыё Свабода).

## 37% БЕЛАРУСАЎ ЛІЧАЦЬ, ШТО БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў РЭКЛАМЕ НЕ ХАПАЕ

**Віктар ЛІСТАПАДАЎ, zautra.by**

***Грамадскія актывісты кампаніі «Справаводства па-беларуску!» разлічваюць палепшыць рэйтынг беларускай мовы ў грамадстве з дапамогай больш шырокага яе распаўсюду ў справаводстве ды ўвядзення квот у рэкламе. На якой мове адказваюць на гэтую прапанову чыноўнікі, і што не ўхваляюць у ёй прадпрымальнікі?***

Лідар кампаніі «Справаводства па-беларуску!» Ігар Случак з паплечнікамі прапануе дубляваць рэкламу на дзвюх мовах, альбо ўвесці норму — 70% рэкламы на беларускай мове. Такі падыход, на думку актывістаў кампаніі, забяспечыць стварэнне і трансляцыю рэкламнай прадукцыі на дзвюх дзяржаўных мовах і павысіць статус беларускай.

Грамадзянская кампанія «Справаводства па-беларуску!» звярнулася да дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу з прапановай падтрымаць змены ў адпаведныя артыкулы закона «Аб рэкламе».

— Гэта было б добрым і цікавым рашэннем, — мяркуе Ігар Случак. — Нарматыўнае рэгуляванне двухмоўя ў рэкламе падштурхне да выкарыстання і павысіць канкурэнтаздольнасць беларускай мовы. У выніку выйграюць як спажыўцы, так і беларускі бізнес.

Даследаванні паказваюць, што да 70% беларусаў станоўча ўспрымаюць рэкламу на беларускай мове, а 37% — лічаць, што яе ў рэкламе не хапае.

Случак падкрэслівае: на мову «не трэба маліцца», гэта — жывы арганізм, які развіваецца.

— Людзі размаўляюць на той мове, якая гучыць у офісе, на якой вядзецца справаводства, якая патрэбная ім у працы. Рэклама паўсюль вакол нас, і калі я на стане беларуска моўнай, дык будзе ўспрымацца больш натуральна, і ўрэшце яе распаўсюд пашырыцца.





# НА МОГИЛЁВЩИНЕ СОЗДАЁТСЯ МОЛОЧНЫЙ ХОЛДИНГ

Игорь БЫЧКОВ

***Предприятие «Бабушкина крынка» широко известно в Беларуси и за её пределами. В Могилёвской области это главный производитель молочной продукции. Ещё два года назад «Бабушкина крынка» перерабатывала около 40% производимого в области молока. За последнее время планка достижений предприятия была поднята на ещё большую высоту, что обеспечило ему практически монопольное положение на областном рынке. В итоге дальнейшее расширение стало только вопросом времени.***

В конце января генеральный директор предприятия Игорь Конончук объявил, что ОАО «Бабушкина крынка» в течение ближайшего полугодия будет преобразовано в холдинг. По его словам, в образованное объединение войдут все молочные предприятия Могилевской области. Можно по-разному относиться к озвученным планам, но нельзя не признать, что подобный опыт у руководства «Бабушкиной крынки» уже имеется.

Могилевский молочный комбинат стал открытым акционерным обществом в 1995 году. В 2001 году к нему были присоединены ОАО «Круглянский маслодельный завод» и ОАО «Краснопольский завод ЗЦМ». Через несколько лет, в 2005-м — ОАО «Кировский маслодельный завод», ОАО «Белыничский сыродельный завод», ОАО «Дрибинский маслодельный завод» и ОАО «Кричевский маслодельный завод». В конце 2006 года к ним присоединился ОАО «Костюковичский молокозавод». В том же 2006 году решением Могилевского горисполкома ОАО «Могилевский молочный комбинат» было перерегистрировано в ОАО «Бабушкина крынка».

Сегодняшние амбициозные планы заключаются в объединении в рамках холдинга уже всех имеющихся в области молочных предприятий. Планируется, что холдинг будет состоять из 19 структурных подразделений, новые из которых все подразделения ОАО «Быховмолоко», 2 завода в Мстиславском и 4 завода в Осиповичском районах. В связи с этим очевидно, что предстоящие преобразования непременно затронут коллектив климовичского цеха ОАО «Мстиславский маслосырзавод». Раньше в Климовичах действовал самостоятельный молочный завод, реорганизованный из-за экономических неурядиц в цех для предприятия в другом районе. Возникает вопрос — каким образом отразится на климовчанах создание холдинга и подчинение «Мстиславского маслосырзавода» «Бабушкиной крынке»?

Своё мнение на условиях сохранения анонимности высказал один из работников бывшего Климовичского молочного завода: «Конечно, организация холдинга очень выгодна для «Бабушкиной крынки». В этом их понять можно. Что же касается нашего коллектива, то, скорее всего, предстоят проблемы. Боюсь, что в Климовичах оставят только приёмку молока для последующей его отправки в Могилёв. А для приёмного пункта много людей не нужно. Если так сделают, то можно смело ожидать сокращения работающих. Думаю, что половину коллектива сразу «попросят» за ворота. Не поможет и то, что директор «Крынки» Конончук — наш земляк, родился и жил в Климовичах».

# ПРОТИВ СТРОИТЕЛЬСТВА АЭС ПРОГОЛОСОВАЛО 94% УЧАСТНИКОВ МЕСТНОГО РЕФЕРЕНДУМА В ПОЛЬШЕ

***По планам строительства атомной электростанции в Польше нанесён серьёзный удар. Против строительства АЭС высказались не только эксперты и представители экологических организаций, но и жители муниципалитета, территория которого рассматривалась властями как одна из возможных площадок для строительства АЭС.***

12 февраля 2012 года, в сельском муниципалитете Мельно (Gmina Mielno) на востоке Польши недалеко от Щецина прошел местный референдум с единственным вопросом: «Согласен ли пан/пани на размещение атомной электростанции или любой другой инфраструктуры атомной промышленности и проведение любых исследований, связанных с инвестициями для этого на территории Гмины Мельно?» По сообщению местных СМИ явка составила 57%, референдум признан состоявшимся. По информации избирательной комиссии против АЭС проголосовали 2237 человек, что составляет 94% участников референдума. 125 человек (5,25%) высказались за АЭС, 16 бюллетеней признано недействительными.

На территории муниципалитета Мельно на берегу Балтийского моря расположена одна из предложенных для строительства АЭС площадок – Гански (Gaski). Таким образом, граждане отказали правительству и возможному инвестору, польской государственной энергетической кампании PGE (Polska Grupa Energetyczna), в размещении АЭС на этой площадке.

**** по информации: bellona.ru***

# У РАСІІ ЖЫВУЦЬ 512 ТЫСЯЧ БЕЛАРУСАЎ

***Паводле звестак апошняга перапісу насельніцтва, які прайшоў у 2010 годзе, у Расійскай Федэрацыі жывуць 512 тысяч беларусаў. Пра гэта паведаміў кіраўнік федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі «Беларусы Расіі», давераная асоба кандыдата ў прэзідэнты РФ Уладзіміра Пуціна, пісьменнік Валерый Казакоў.***

***За дзесяць гадоў дагэтуль, дадаў ён, беларусаў было ў Расіі 832 тысячы, а дваццаць гадоў таму — 1,2 мільёна.***

***«Калі так і далей пойдзе, беларуская самаідэнтыфікацыя ў Расіі знікне, — канстатаваў ён. — І гэта не толькі праблема беларусаў, якія жывуць у Расіі, але і праблема беларускіх уладаў. Каб адчуваць сябе больш-менш камфортна, выхадцы з Беларусі перастаюць ідэнтыфікаваць сябе як беларусы і становяцца этнасам».***

***На думку Казакова, у Беларусі павінна быць дзяржаўная праграма падтрымкі дыяспары, павінны быць дзяржінстытуты, чыя дзейнасць была б на гэта скіраваная. «Дзякуй Богу, урад Беларусі пачынае сёлета будаўніцтва „Беларускага дома“ ў Маскве, — паведаміў кіраўнік нацыянальна-культурнай аўтаноміі, — з яго будаўніцтвам мы ўжо спазніліся на дваццаць гадоў. Пры такім падыходзе праз дзесяць гадоў, я баюся, у Расіі застануцца 300 тысяч беларусаў».***

*** Паводле БелаПАН і “Нашай Нівы”**



# ГАРЭЛАЧНЫЯ КАМАНДЗІРЫ

Сяргей АРЖАНЦАЎ

***У Беларусі Клімавіцкі лікёра-гарэлачны завод уступае толькі Мінскаму "Крышталю". Па маштабах выпуска прадукцыі, абсталяванню, тэхналагічнаму ўзроўню яго ўключаюць у групу лідараў галіны на постсавецкай прасторы. Быць сярод лідараў — пачэсна, але не сакрэт, што Клімавіцкі ЛГЗ неаднаразова перажываў і перажывае цяжкія часы. І сусветны фінансава-эканамічны крызіс тут абсалютна ні пры чым, бо цяжкасці ўзніклі задоўга да ўсялякіх крызісаў. Невыпадкова прадпрыемства раз за разам атрымлівае шматмільярдныя адтэрміноўкі па пагашэнню запазычанасці. Такім чынам, эканамічны бок справы не дазваляе лічыць, што ЛГЗ можа ўсур'ёз прэтэндаваць на лідарства сярод вядомых алкагольных "цяжкавагавікоў". Магчыма, прычына ў кадрах, якія, як вядома, вырашаюць усё?***



Самы вядомы з дырэктароў — гэта Белавусаў Міхаіл Трыфанавіч, які ўзначальваў завод з 1981 года. Пры ім не ведалі, што такое адсутнасць пакупнікоў, не маглі ўявіць, што вытворчасць гарэлкі можа быць стратнай. Але пасля лёсавызначальнага 1994-га на прадпрыемстве паступова адчулі непрыемныя тэндэнцыі. Аднекуль нечакана з'явіліся паўкрымінальныя канкурэнты, а на рынках запанавала падробленая гарэлка. У гэткіх умовах прыбыткі ЛГЗ зацікавілі новых уладароў жыцця. Старшыня райвыканкаму Уладзімір Канавалаў пачаў ціснуць на дырэктара Белавусава, прапануючы яму звольніцца з завода. Некалькі гадоў супрацьстаяння скончыліся прыходам сюды Вячаслава Рамашкевіча.

Прозвішча Рамашкевіча запомнілася па гучных крымінальных справах. Напрыканцы 2001 года праваахоўнікі затрымалі аўтатранспарт, які вывозіў з тэрыторыі ЛГЗ скрыні з гарэлкай. Транспарт суправаджаў міліцыянт, а за рулём быў службовы кіроўца Канавалава. У адносінах да "вертыкальшчыка" распачалі следства, быў зняты з пасады начальнік Клімавіцкага РАУС. Рамашкевіч пазбегнуў адказнасці, праз пару гадоў апынуўся ў Белкаапсаюзе. Але лёс не падманеш, пазней ён быў прысуджаны да 10 гадоў пазбаўлення волі. Суд вызначыў, што дзейнічаючы ў складзе арганізаванай групы, ён скраў на ЛГЗ 548 мільёнаў руб.

З чэрвеня 2005 па снежань 2006 г. Клімавіцкім заводам кіраваў малады і амбіцыйны Дзмітрый Бонахаў. Калі 33-гадовы гендырэктар трапіў на прадпрыемства, то, па ягоных словах, убачыў неабходнасць навядзення элементарнага парадку. Перш за ўсё Бонахаў узяўся за дысцыпліну, але не забываўся і аб вытворчасці. У хуткім часе калектыў запрацаваў у тры змены. За 2005 год тэмпы росту дасягнулі 123%, а ў наступным 2006-м — 162%. Але 27 снежня 2006 г. энергічнага кіраўніка нечакана прызначылі старшынёй Бабруйскага гарвыканкаму. Наўрад ці сам Бонахаў жадаў апынуцца ў Бабруйску. Якраз перад тым для завода спецыяльна прыдбалі більярд, да якога, кажуць, малады дырэктар быў вялікім аматарам.

Наступным прызначэнцам стаў Аляксандр Бабічаў, які трапіў на ЛГЗ з пасады кіраўніка камбіната хлебапрадуктаў. Ён таксама пратрымаўся на заводзе нейкіх пару гадоў, а потым узначаліў Слуцкі камбінат. Пры ім адбылася мадэрнізацыя вытворчага абсталявання, напрыклад, усталявалі італьянскую лінію розліва гарэлкі коштам 500 тысяч еўра. Але тэмпы, узятыя ягоным папярэднікам Бонахавым, зніжаліся кожны год. Прадпрыемства, як і ўся краіна, напоўніцу спазнала крызіс.

З 2010 года генеральным дырэктарам з'яўляецца Мікалай Бялко, які працягвае знакамітую дынастыю. Яго бацька кіраваў сталічным "Крышталем", дзядзька — Брэсцкім "Белалко". Спадар Бялко мае неабходныя сувязі, досвед, дзве вышэйшых адукацыі. Тым не менш, справы на прадпрыемстве пагаршаюцца. Сёння клімавіцкая гарэлка амаль не прадаец-

## ЯКІЯ ПРАГНОЗЫ НА БУДУЧЫНЮ КЛІМАВІЦКАГА ЛГЗ?

***Мікалай Гердзій – працаваў у кіраўнічых органах, у 1993-2000 гг. намеснік старшыні Крычаўскага райвыканкама, зараз на пенсіі.***

Клімавіцкі лікёра-гарэлачны завод — гэта не шараговы суб'ект гаспадарання. Ад вынікаў ягонай працы залежыць жыццядзейнасць цэлага раёну. Да таго ж прадпрыемства з'яўляецца буйнейшым падаткаплацельшчыкам Магілёўскай вобласці. Усе гэтыя абставіны нельга не ўлічваць. Калі казаць пра магчымыя прагнозы, то трэба вяртацца ў мінулыя часы, калі клімавіцкая "вертыкаль" пачала ўмешвацца ў кадравыя прызначэнні на прадпрыемстве. Якраз тады на завод трапілі не лепшыя спецыялісты, што спарадзіла хранічныя праблемы з вытворчасцю прадукцыі і знешнім гандлем. Аб тым жа сведчыць ліквідацыя Забялышанскага спіртзавода, які быў падначалены ЛГЗ, сённяшняя сітуацыя на Краснабудскім вінзаводзе. Што будзе далей? У бліжэйшай перспектыве чакаецца прыватызацыя прадпрыемства. Але не ўпэўнены, што яна дапаможа, бо ў нашых умовах дзяржава, як правіла, ідзе на прыватызацыю не ад добрага жыцця.





ца за межамі краіны. Сітуацыю на ўнутраным рынку таксама нельга назваць здавальняючай. Падобна, што завод выратуе толькі цуд, але ў эканоміцы цудаў не бывае.

Здаецца, што сапраўдныя праблемы Клімавіцкага ЛГЗ зусім не ў якасцях ягонай гарэлкі, крытыкаваць якую апошнім часам стала проста модна. Ва ўсялякім разе Касцюковіцкі спіртзавод, што абслугоўвае ЛГЗ, вырабляе спірт, аналагаў якому няма ва ўсім СНД. Так што карпаратыўны брэнд "Клімград" для разумных пакупнікоў не пустое месца, а паважаная гандлёвая марка. Толькі ні "Клімград" і ні самы дасведчаны кіраўнік не ў стане дапамагчы, калі развіццё прадпрыемства стрымліваецца бязглуздымі эканамічнымі ўмовамі. Напрыклад, немагчыма паверыць, але раней завод правяралі чатырыста разоў на год, гэта значыць, штодзень прыязджала аднадзве праверкі. А колькі і сёння праблемаў з-за абмежавання продажу прадукцыі ў іншых абласцях. Становішча Клімавіцкага лікёра-гарэлачнага завода, такім чынам, выдатна адлюстроўвае заганы і недахопы ўсёй беларускай эканамічнай сістэмы. І пакуль яны існуюць, мы не ўбачым ні эфектыўнай працы, ні нават якасна зробленай гарэлкі.

# НАВОШТА ЁН РОБІЦЬ ТАКІЯ ЗАЯВЫ?

**Валер Карбалевіч, Радыё Свабода**

***Вы не задаваліся пытаннем, навошта Лукашэнка перыядычна ўзбуджае палітызаваную публіку шакуючымі заявамі, якія не варта было б рабіць з гледзішча ягоных уласных палітычных інтарэсаў? Кшталту таго, што мы сфальсіфікавалі прэзідэнцкія выбары. Што склад Палаты прадстаўнікоў ён вызначае загадзя. Ці што кіраўніцтва КДБ бачыць сваю галоўную задачу ў барацьбе з апазіцыяй («пятай калонай»). Рабіў бы так, як Пуцін, які выказвае правільныя, выверaныя рэчы, не падкапаешся. А Лукашэнка ўвесь час падстаўляецца.***



Такая палітычная стылістыка беларускага лідэра мае некалькі прычынаў. Па-першае, гэта звычка палітыкапапуліста падабацца аўдыторыі сваёй шчырасцю. Калі ён хваліцца расійскім журналістам аўтарытарным стылем свайго кіравання, то разлічвае на разуменне і падтрымку. І не памыляецца. Як Берлусконі, які рэгулярна шакаваў заявамі элітную публіку, але адчуваў разуменне свайго электарату. Прэзідэнт Беларусі ўпэўнены, што ў народу сваё ўяўленне пра справядлівасць. І калі Лукашэнка кажа, што парушыў закон, каб дапамагчы людзям, то трапляе ў фокус гэтых уяўленняў. Хоць апошнім часам пацэліць у фокус яму ўдаецца ўсё радзей.

Па-другое, ён імкнецца замацаваць у грамадскай свядомасці ідэю фатальнай наканаванасці захавання цяперашняга палітычнага статускво. А дзеля гэтага трэба дасылаць грамадству і наменклатуры пэўныя сігналы, якія яны павінны добра разумець. Што, напрыклад, любыя спробы змагання за рэальную ўладу (імітаваць — можна) будуць жорстка пакараныя.

Таму Лукашэнка рэгулярна прысутнічае на калегіі КДБ. Вы можаце ўзгадаць, каб прэзідэнт праводзіў калегію якога-небудзь міністэрства ці ўстановы? Вось. А з КДБ ён праводзіць нарады часта. Можна ж было не афішаваць сваю асаблівую цікавасць да Камітэту дзяржбяспекі, правесці гэтае паседжанне ціха, у таямніцы. Аднак ён робіць гэта дэманстратыўна. Каб нагнаць страх на грамадства. І кіраўніцтва камітэту публічна канстатуе, хто галоўны вораг. Камусьці яшчэ нешта не зразумела?

Альбо возьмем, прабачце за выраз, «выбары». Звярніце ўвагу: за час праўлення Лукашэнкі мяняліся і прэм'ер-міністры, і кіраўнікі адміністрацыі прэзідэнта, і нават, страшна сказаць, старшыні КДБ. І толькі кіраўніца Цэнтравыбаркаму Ярмошына кіруе гэтай установай з 1996 году. Хоць можна было б знайсці для гэтай пасады і іншых паслухмяных чыноўнікаў. Аднак Лідзія Міхайлаўна не проста старшыня ЦВК. Яна сімвал. А сімвал нельга мяняць, бо адразу сярод наменклатуры могуць узнікнуць пытанні: што гэта азначае? Цяпер выбары ў нас будуць праходзіць па-іншаму? І каб пытанні не ўзніклі, не толькі захоўваюць Ярмошыну як нацыянальны здабытак, але прэзідэнт прымае спікера Палаты прадстаўнікоў і даводзіць, што чвэрць дэпутатаў павінна захаваць свае пасады, а балбатуноў там не трэба. І наменклатура разумее, што выбары павінны прайсці як звычайна.

Па-трэцяе, тут дзейнічае псіхалогія ўсеўладнага кіраўніка. У тым і асалода неабмежаванай улады, што можна рабіць, гаварыць што хочаш, задавальняць любы свой капрыз. І няважна, што падумаюць — «піпл схавае». Захацелася паехаць на Алімпійскія гульні — сеў на самалёт і паляцеў у далёкі японскі горад Нагана. Любіць сына — і таму некалькі гадоў кіраваў дзяржавай з Колем на руках. Хочацца быць спартовым трыумфатарам — арганізаваў для сябе хакейны турнір на Ражство, які дзяржаўныя медыі назвалі «чэмпіянатам свету сярод аматарскіх камандаў».

Нарэшце, па-чацвёртае, кіраўнік Беларусі мае псіхалагічную асаблівасць прагаворваць свае патаемныя думкі ўголас. Цяжка схаваць сваю натуру. Іншым разам ён выказвае тое, што яго хвалюе, у выглядзе адмаўлення. Узгадайце, колькі разоў ён адмаўляў, што трымаецца за ўладу. Маўляў, як вы маглі падумаць, я стаміўся, але няма каму яе аддаць, дый народ не зразумее.

Уважліва сачыце за тым, што гаворыць Лукашэнка. Там могуць быць адказы на шмат якія пытанні.



# ВЕТХОЕ ЖИЛЬЁ? В КЛИМОВИЧАХ ЕСТЬ И ТАКОЕ

Данила МЕСТИЧ

***На Могилёвщине настроены осуществить полное отселение жильцов из имеющегося в области ветхого жилья. Конечно, не сразу, а в разумные сроки. Называется и конечная дата — 2015 год. Но выполнима ли эта задача в оставшиеся три года? Увы, есть все основания считать, что власти выдают желаемое за действительное.***

Для нашего города указанная проблема является одной из самых острых. О состоянии дел можно судить по тому, как сообщили об этом в республиканской «Народной газете» — «В Климовичах придумали, как предоставить новое жилье обитателям ветхих бараков». Это было не когда-то, а меньше года назад. В газетном интервью председатель Климовичского райисполкома Василий Захаренко также посчитал главной среди проблем замену ветхого жилья на новое: «Не поверите, приходится выселять людей из домов, построенных ещё в XIX веке. Естественно, они стали непригодными для проживания. Всего же в райцентре признаны ветхими двадцать пять домов, в которых насчитывается семьдесят одна квартира. Причем три дома — многоквартирные».

За прошедший после этого год районные власти постарались сделать всё возможное и даже больше. Их усилия по решению проблемной ситуации отметили в облисполкоме. Глава области Пётр Рудник поставил наш город в пример другим регионам: «Климовичи за 2011 год 29 квартир отселили и Бобруйск — 24. Что, сегодня бюджет в Климовичах больше, чем в Бобруйске? Все остальные горрайисполкомы инициативу не проявляли, поэтому имеем такие плачевные результаты».

Председатель облисполкома обязал чиновников изыскать дополнительные резервы для решения вопроса. Тем более и дата окончательного переселения из ветхого жилья в нормальное, то есть 2015 год, была уже определена. Но искать резервы становится сегодня всё более затруднительно. Поэтому у нас и появились сомнения в реальности выдвинутых областной властью планов. Лучше всех это понимают сами чиновники, которые имеют реальное представление о возможных объёмах финансирования жилищного строительства в области.

Чтобы быть объективным, перейдём к конкретным цифрам. Прошлогодний рывок, когда Климовичи сумели обойти Бобруйск, больше уже, скорее всего, не повторится. Не те времена пошли, это не стоит даже объяснять. Согласно официальным сведениям, в 2012 году в Климовичах намерены отселить из ветхого жилья всего 4 квартиры. А в том же Бобруйске готовятся переселить 40 неблагополучных квартир. Так что нам с ними действительно не тягаться. И не только нам, в Кричеве, к примеру, по плану отселения на этот год стоит 5 квартир. Поэтому резонно спросить, а успеют ли в районах обеспечить всех жильём к назначенному 2015 году?

Думается, что нет. В областном управлении ЖКХ с таким видением ситуации, похоже, тоже согласны. Здесь разрабатывают идею по постройке в Могилёве дома, где нуждающимся в жилье будут предлагаться взять квартиры в аренду. Также в области создаётся жилищный фонд из квартир, которые могут быть сданы в аренду. Но их количество не позволяет надеяться на обеспечение жильём всех, кто в нём нуждается. В том же Бобруйске — это всего 19 квартир, а в Климовичах пока только 9. К тому же отмечается, что в ряде случаев предлагается жильё с частичным благоустройством. Туалет может быть на улице, нет горячей воды и т. п. Так что и подобный вариант решения давно назревшего жилищного вопроса нельзя считать действенным средством. 2015 год не за горами и поэтому власти зря в который уже раз дают людям опрометчивые и необдуманные обещания.

# ОБЕЩАНИЯ ДЛЯ НОВОБРАЧНЫХ

Данила МЕСТИЧ

Попалась на глаза заметка о благоустройстве улиц и общественных мест Гомеля. Читаешь и душа радуется. Тут тебе и малые архитектурные формы, и ландшафтный дизайн, и творческие конкурсы среди гомельчан на лучшее украшение конкретного места. К примеру, собираются сделать Аллею скамеек, где хотят установить самую длинную скамейку в Беларуси.

Но среди прочего особенно запомнилась информация про готовящееся в Гомеле открытие Аллеи влюблённых. А ведь у нас в Климовичах нечто подобное замыслили гораздо раньше. Ровно год назад начальник отдела идеологической работы Климовичского райисполкома Мария Пракопчик рассказала в СМИ о том, что в районе намереваются открыть «Берег любви». По её словам, в апреле 2011 года пройдёт районный субботник, средства от которого будут направлены на обустройство площадки для новобрачных у реки Калиница. Была названа и точная дата открытия «Берега любви» — июнь. Но прошёл год и из всего запланированного состоялись только любимые нашим государством бесплатные общественные работы. Никаких площадок у Калиницы не появилось. Остаётся посоветовать новобрачным дождаться следующего июня или, в крайнем случае, провести ещё один внеочередной субботник.



## БЕЛАРУСЬ ГАЛАСАВАЛА СУПРАЦЬ РЭЗАЛЮЦЫІ ААН

***Генеральная асамблея ААН прыняла рэзалюцыю з асуджэннем уладаў Сірыі. За дакумент прагаласавала 137 краін, супраць 12, устрымаліся 17.***

Рэзалюцыя патрабуе ад уладаў Сірыі спыніць рэпрэсіі супраць насельніцтва. Цікавы спіс краін, што галасавалі супраць рэзалюцыі: Кітай, Расія, Іран, Венесуэла, Куба, Паўночная Карэя, Балівія, Эквадор, Нікарагуа, Зімбабвэ, сама Сірыя і наша Беларусь.

Афіцыйная пазіцыя Расіі заключаецца ў тым, што асуджаць трэба адначасова і ўлады, і паўстанцаў, і заклікаць да спынення агню.

Рэзалюцыя была прынятая 16 лютага і носіць неабавязковы характар. Прынящце аналагічнай абавязваючай рэзалюцыі ў Радзе бяспекі заблакавалі Расея і Кітай. Яны ўжылі права вета.





# БЕЛАРУСЬ БЕЗ БЕЛАРУСКАГА КІНО

Алесь МІНСКІ

***Беларускае кіно не глядзяць. Не таму, што яно дрэннае, а таму, што яго няма. Тыя некалькі стужак, якія з'явіліся ў апошні час, наўрад ці можна лічыць дасягненнем айчыннай кінематаграфіі. Спытайцеся ў гледачоў, якія нават не чулі іхнія назвы. Тым часам, на славутым "Беларусьфільме" штогод здымаюць кіно. Узнікае пытанне — якое і для каго?***

Уласна для мяне "Беларусьфільм" — гэта кіно майго дзяцінства. Гэта вядомы на ўвесь Савецкі Саюз "Бураціна" і мноства ваенных стужак, з-за якіх студыю ў народзе называлі "Партызанфільмам". Пра яе ведалі паўсюль, тут здымаліся лепшыя савецкія кінаакцёры. Зараз жа не толькі незалежныя газеты, але і дзяржаўныя СМІ гавораць пра лёс "Беларусьфільма" наступнымі словамі: "Адны кажуць, што гэтую стратную і непатрэбную ўстанову лепш ліквідаваць, пакуль не позна. Другія лічаць, што кінастудыю трэба зрабіць прыватнай, і тады там пачнуцца нарэшце станоўчыя працэсы: з'явіцца і прадавальны прадукт і, адпаведна, прыбытак. А трэція проста пацiскаюць плячыма, лыпаюць вачыма і шкадуюць звычайных людзей, тэхнічны персанал, які ў выпадку разбурэння кінастудыі застанецца без працы" (газета "Звязда" – 3.12.2011).

Канешне, здымкі на студыі працягваюцца, але яна амаль не займаецца працай над нацыянальным кінапрадуктам. Вывучэне сітуацыі паказвае, што сёння "Беларусьфільм" выкарыстоўвае свае тэхнічныя магутнасці для абслугоўвання расійскіх кінакампаній. Кожны год тут здымаецца прыкладна 20-30 расійскіх фільмаў і серыялаў. Магчыма, на нацыянальнае кіно не хапае сродкаў? Але з гэтым цяжка пагадзіцца, бо грошы выдаткоўваюцца, а дзяржава аказвае і іншую падтрымку. Напрыклад, існуе Канцэпцыя развіцця кінематаграфіі Рэспублікі Беларусь на 2009-2014 гады. Зусім нядаўна, у гэтым снежні, быў прыняты дакумент "Аб мерах па дзяржаўнай падтрымцы і стымуляванні развіцця кінематаграфіі".

Такім чынам, нешта ўсё ж робіцца, але вынікі ўсё роўна не задавальняюць ні дзяржаву, ні тым больш гледачоў. Пра што казаць, калі па словах міністра культуры Паўла Латушкі:

«Камерцыйная эфектыўнасць кінастудыі ёсць», але «вяртанне дзяржаўных рэсурсаў складае прыблізна 7%». Гэта азначае, што толькі 7% бюджэтных сродкаў, укладзеных у праекты «Беларусьфільма», вяртаюцца дзяржаве. І галоўнае, хто ведае пра фільмы, якія здымаюцца на студыі?

Журналісты паспрабавалі высветліць, што зараз рыхтуе "Беларусьфільм" для айчынных тэлеаматараў. Вось некаторыя праекты. "Паляванне на гаўляйтара" — кіно аб забойстве гаўляйтара Кубэ, якое падрыхтавалі беларускія партызаны. "Снайпер-2" — працяг аднайменнага фільма, дзе здымаюцца ў асноўным расійскія акцёры. Яшчэ рыхтуюцца адзін анімацыйны фільм і некалькі дакументальных стужак. Прыемна адзначыць, што кароткаметражная дакументальная стужка "Спадчына" будзе знята не без удзелу нашага земляка. У мінулым годзе малады клімаўчанін, гісторык Алесь Лапо напісаў сцэнарый гэтага фільма і накіраваў яго на рэспубліканскі моладзевы конкурс. Праца Алеся перамагла на конкурсе і атрымала ўзнагароду ў намінацыі "Сцэнарый дакументальнага фільма, прысвечанага нацыянальнай тэматыцы". У ім распавядаецца пра жыхароў вёскі Неглюбка на Веткаўшчыне, якая слаўная сваімі тканымі ручнікамі. Такія фільмы дапамагаюць асэнсаваць нашу культурную спадчыну і тое месца, якое яна займае ў рэчаіснасці і свядомасці сучасных беларусаў. Таму шчыра пажадаем Алесю новых творчых здабыткаў і працягу працы над стварэннем нацыянальнага беларускага кіно.

# КАСТУСЁЎ ПРАПАНУЕ ДАПАМАГЧЫ ВЕРТЫКАЛІ Ў ПАПУЛЯРЫЗАЦЫІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

***Як паведамляе Радыё Свабода, намеснік старшыні партыі БНФ Рыгор Кастусёў прапанаваў Магілёўскаму аблвыканкаму дапамогу ў папулярызацыі беларускай мовы.***

Палітык адправіў ліст старшыні абласной выканаўчай улады Пятру Рудніку, у якім звярнуў увагу на звужэнне ўжытку нацыянальнай мовы беларусаў у рэгіёне.

Як сцвярджае былы кандыдат у прэзідэнты зацверджаны кіраўніком вобласці «Комплекс першачарговых мер Магілёўскага аблвыканкаму па папулярызацыі беларускай мовы на 2010-2012 гады» не выконваецца.

«Партыя БНФ прапануе дапамогу ў рэалізацыі гэтай справы, каб па сканчэнні тэрміну дзеяння ад „Комплексу мер папулярызацыі мовы" быў плён. Магілёўская вобласць была адзінай, якая прыняла такі план дзеянняў, але да жалю, даводзіцца канстатаваць, што за два прамінулыя гады пайшоў працэс у звужэнні выкарыстання беларускай мовы на Магілёўшчыне. Дакумент стаў нібыта сігналам для дзеяння наадварот. З 40 пунктаў „Комплексу мер" ніводзін не выконваецца. Калі чыноўнікі не здольныя выканаць сваіх жа рашэнняў, партыя БНФ гатовая ім дапамагчы, каб потым не сказалі, што апазіцыя толькі крытыкуе і нічога не прапануе наўзамен. Гэта наш крок насустрач. Мы



гатовыя да супрацы ў папулярызацыі мовы», заяўляе Рыгор Кастусёў.

У лісце Рудніку Кастусёў даводзіць, што чыноўнікі адмаўляюцца даваць адказы на беларускай мове, альбо выдаваць дакументы па беларуску. Цягам апошніх год, зазначае палітык, у рэгіёне мяняюць беларускамоўныя шыльды назваў вуліц і ўказальнікаў паселішчаў на рускамоўныя. Скарачаецца колькасць навучальных установаў з беларускай мовай выкладання.

«Комплекс першачарговых мер Магілёўскага аблвыканкаму па папулярызацыі беларускай мовы на 2010-2012 гады» быў зацверджаны Пятром Руднікам 31 снежня 2009 году. Пра ход ягонай рэалізацыі звестак у даступных крыніцах інфармацыі вельмі мала.








# С КАЖДЫМ ДНЁМ ВСЁ РАДОСТНЕЕ ЖИТЬ?

***Нам опять обещают зарплату в 500 долларов и опять — к концу года. А также повысят пенсии, стипендии, социальные пособия. Так что жизнь налаживается, зарплаты растут, а цены на товары снижаются. В Климовичах готовы пойти даже на 100-процентные скидки. Но радость от увиденных 100% быстро улетучивается. Магазин с заманчивой рекламой закрыт на замок, а дорожка к нему заметена непролазным снегом. Ох, похоже, не скоро потратим мы в этом магазине обещанные нам огромные зарплаты.***

# ШТО НІ ГАРАДОК, ТО ГАВАРОК, ШТО НІ СЯЛЬЦО, ТО СЛАЎЦО!

***Прапануем чытачам беларускія прыказкі і прымаўкі, прысвечаныя месяцам года.***

***СТУДЗЕНЬ***
***Студзень — году пачатак, а зіме — сярэдзіна.***
***Студзень зямлю студзіць.***

***ЛЮТЫ***
***Пытаецца люты, ці добра ногі абуты.***
***У лютым востры мароз — кароткая зіма.***

***САКАВІК***
***Люты вады падпусціць, а сакавік падбярэ.***
***Сакавік дрэвам сок пускае.***

***КРАСАВІК***
***У красавіку грымот — цеплы будзе год.***
***Вясна красна, хоць галадна.***

***МАЙ***
***Май — жывелу ў поле пхай.***
***Май халодны — год галодны.***

***ЧЭРВЕНЬ***
***Чэрвень не гуляе — ураджай люляе.***
***Людзі рады лету, а пчолы квету.***

***ЛІПЕНЬ***
***Ліпень косіць і жне, доўга спаць не дае.***
***Ліпень пякучы, але даручы.***

***ЖНІВЕНЬ***
***Кожная хата ў жніўні багата.***
***Жнівень жне і косіць — на сталах багацця досыць.***

***ВЕРАСЕНЬ***
***Халодны верасень, але сыты.***
***Як настане верасень, у гаспадара поўна гумно і кішэнь.***

***КАСТРЫЧНІК***
***Кастрычнік ходзіць па краю, гоніць птушак з гаю.***
***Кастрычнік зямлю балоціць, а лес залоціць.***

***ЛІСТАПАД***
***У лістападзе гола ў садзе.***
***Лістапад снегу надуе — хлеба прыбудзе, а вада разальецца — сена набярэцца.***

***СНЕЖАНЬ***
***Снежань зямлю грудзіць, хаты студзіць.***
***Снежань зіму пачынае, а год канчае.***



КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

*Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь*
*Адказны за выпуск: Аржанцаў Сяргей Юр'евіч*
*Адрас: Клімавічы, вул. Леніна, д. 27а, кв.15.*
*Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад 299 асобнікаў*
*Распаўсюджваецца бясплатна*